Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ВЫХОДЗІЦЬ ТРОЙЧЫ У ТЫДЗЕНЬ.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. З безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Пятніца, 20 чэрвеня 1919 г. № 24.

## Чорная праца.

Бальшавікі і іх палітыка так абрыдлі ўсім у нашым краі ўчасе свайго панаваньня, што, калі прыйшлі польскія войскі, то а-маль ўва ўсіх на душы палягчэла, як быццам цяжкі камень зваліўся з плеч.

За польскімі войскамі прыйшлі мука, сала і інш. харчы, і галодныя людзі, пухшыя з голаду, патроху ачунялі.

Галодны люд кінуўся ў абʼяцьці «данайцам» нашых дзён і пад уплывам агітацыі вёрткіх і карыстаючых палітыкаў, пачаў прасіць аб далучэньні яго да сытай і шчасьлівай Польшчы.

Найбольш папрацавалі ў гэтым кірунку паны і ксяндзы-палянізатары.

Паўсюды сталі адбывацца «мітынгі» з аднэй прапазіцыяй: «до короны»!

Як піша наш карэспандэнт, «ў Сsend Саракпольскім касьцелі праз месяц май, замест маёвага набажэнства праклінаЛАСЯ Тарыба з Літвою, ну і з Беларусьсю. У ваколіцах Клюшчан зборшчыкі подпісаў «до короны» тлумачылі, што подпісы патрэбны *для атрыманьня харчоў*. А хто і мукі выракаўся, таго папросту змушалі. Дзеці да васьмёх гадоў і усе няпісьменныя мусяць ставіць крыжыкі».

Такая праца вялася і вядзецца, як нам ведама, ня толькі ў Саракпольскай парахвіі. Палянізатары паны і ксяндзы робяць сваю чорную працу па ўсей акупіраванай польскімі войскамі Беларусі, вымагаючы ад галодных людзей подпісаў аб далучэньні да Польшчы — за муку, сала і інш. прадукты.

Навет у Вільні, як мы паведамілі ў № 23 «Б. Д.», у 6 вучастку «польскія чыноўнікі адказалі замэльдаваць жыльцоў дома № 28, Полацкай вуліцы, дзеля таго, што ў гэтым доме знайшлося 7 беларусаў; чыноўнікі гэтыя вымагаюць, каб усе пісаліся палякамі, бо хто запішацца беларусам, дык не дастане прадуктаў ад горада».

Так працуюць чорныя польскія «маўры» «падлейшага гатунку», думаючы, што такімі спасабамі можна далучыць нас да Польшчы.

Не, паночкі! Ваша чорная праца дасьць неспадзеваныя для вас рэзультаты, бо навет і той, хто гатоў быў ісьці з вамі разам, пабачыўшы, куды вы кіруеце, зьверне на другую дарогу.

І нам ведама, што ува многіх мясцах Беларусі, дзе сялянства перш падпісалася пад рэзалюцыяй аб далучэньні да Польшчы, цяпер ужо крычаць аб другім—аб бым, што да Польшчы яны далучацца ня хочуць, бо хочуць быць незалежнымі.

Лук—аш.

## АД РЭДАКЦЫІ.

Чародны нумэр выйдзе заутра

З гэтага часу газэта будзе штодзеннаю.

*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць калюцца часу пахваліцца сваімі мястовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,—няхай ен будзе ласкаў не абмінуць сваю беларускую рэдакцыю.*



## Беларускае войска.

Беларускі зьезд Горадзеншчыны і Віленшчыны, адбыўшыся 9—11 чэрвеня ў Вільні, пастанавіў стварыць беларускае войска, каб яно 1) вяло барацьбу з бальшавікамі і 2) бараніла незалежнасьць Беларусі.

Такім чынам, беларусы ясна сказалі, што ім патрэбна с в а ё войска.

Да апошняй пары мы бачылі, што ўсякі, хто хацеў, меў магчымасць без ўсякай небясьпекі прыходзіць на тэрыторыю Беларусі і рабіць ў ёй сваю палітыку.

І немцы, і бальшавікі, і палякі, ні у кога (а таксама і ў нас) ня пытаючы, вялі і вядуць на тэрыторыі Беларусі вайну, руйнуюць і нішчаць нашу Бацькаўшчыну.

З намі ня лічыцца ніхто, каму трэба рабіць за наш рахунак сваю палітыку.

І ня толькі цяпер гэтак робіцца і ня толькі з намі так робяць, а рабілі так заўсёды і са ўсімі, хто ня меў сваёй арганізаванай вайсковай сілы.

І вось мы, беларусы, калі хочам, каб з намі лічыліся і каб мы маглі адбудаваць непадзельную і незалежную Беларусь, мы павінны стварыць с в а ё войска.

Самі гэтага зрабіць у цяперешнім часе мы ня можам, без дапамогі з боку.

Хто-ж нам паможа?

Мы лічым, што памагчы нам павінны перш усяго дзяржавы Антанты, а з імі і Польшча.

Польшча павінна падтрымаць пажаданьне Беларусаў стварыць с в а ё войска, але-ж і мець у тым самым часе на увазе, што беларускае войска не павінна будзе служыць Польшчы, а толькі сабе і ўсяму сьвету, калі яно будзе біцца з бальшавікамі і бараніць сваю незалежнасьць.

*П. С—ка.*

# Больш асьцярожнасьці.

Нічога на сьвеце ня робіцца дарма. Пасьля пекных абецанак і адозваў, пасьля запэўненьняў «аб нашай і вашай вольнасьці» беларусы гатовы былі паверыць, што польская палітыка крыху зьмяніла даўнейшыя сярэднявяковыя прывычкі, крыху будзе лічыцца з інтэрэсамі іншых народаў. І, як гэта заўсёды з нашым братам бывае, мы пайшлі з радасьцю на спатканьне згодзе ды яшчэ ад сябе прыемнасьцяй розных нагаварылі. І, ведама, ашукаліся. Польская палітыка, відаць, вучылася у Пазнаню і цяпер на нашай зямлі акуратна прыкладае спосабы прускіх гакатыстаў. Разумець такую палітыку мусіць прыходзіцца так: салодкія абецанкі затым былі дадзены, каб горкая аннэксыя беларускай зямлі ня вызвала вялікага скандалу.

Адна з газэтаў, якой мы дагэтуль ня лічылі анэксыяністычнай, зьмяшчае адчот аб Гарадзенскім «сэйме»... «людовым». «Сэйм гэты, скліканы і праведзены «эн-дэкамі» меў мэтаю, як гаворыцца ў павестцы разсыланай па вёсках, «далучэньне Гарадзеншчыны да Польшчы». Ен выказаўся за такое далучэньне і навет больш таго—за тое, каб гэтую справу развязаў Варшаўскі Сэйм.

Гэта ёсьць саўсім выразнай аннэксыяй, але тым часам і паважаная п. п. с-оўская газэта і прадстаўнікі вайсковыя, якія хаця-б ex officio павінны-б стаяць на грунце адозвы свайго Начальніка, спаткалі гэты «Сэйм» вельмі прыхільна.

Быць можа, што на гэты раз газэта захоча растлумачыць гэты факт непаразуменьнем, але такое непаразуменьне спатыкаецца ўжо ня першы раз. Ня так даўно адна з варшаўскіх газэтаў таго-ж напрамку зьмесьціла карэспандэнцыю з Вільні (як кажуць, пісаную у Варшаве), поўную інсінуацый пад адрасам беларускага руху і яго дзеячоў. — Такія непаразуменьні наводзяць нас на думку аб тым, чаго мы можам спадзявацца ужо ня толькі ад правіцы, але і ад некаторых кругоў лявіцы.

Пакрысе туман разьясьняецца. Супакоіўшы нашую асьцярожнасьць пекнымі словамі, няшчырымі абецанкамі, скарыстаўшы яшчэ з нашых даверчывых словаў у Парыжы («глядзіце, як яны нас любяць!») ад нас забяруць зямлю нашую і забяруць назаўсёды. Так, як прусакі ў ўсходніх краёх сваіх, даўней польскіх (дзіўна што навет назва—Ziemie Wschodnie—гэта замест—Litwa święta Сырокомлі і Міцкевіча—як бы ператтлумачана з нямецкага) багатых і «плодных» (гэта іх асаблівая плоднасьць!) сялян з пад Пазнані і Кракава пераселяць у нашую няшчасную зруйнаваную Гарадзеншчыну. Тыя пэўне яшчэ пабагацеюць і будуць яшчэ больш «плоднымі», а наш беларускі селянін, седзячы цяпер на пажарышчах, без каня, бяз плуга, без насеньня, бяз кутка свайго — пойдзе парабкам служыць да новых «паноў». Але-ж, паноў! Прэце-ж і гаварыць яны з парабкамі сваймі «па-панску» будуць.

З галодным безабаронным чалавекам можна што хочаш зрабіць. Хіба вы ня чулі, як у часе голаду людзі жэрлі мяса сабе падобных? Што зробіць нешчасны гарадзенскі селянін-бежанец, апынуўшыся на такім „сэйме" ў Горадні? Кругом паны і гэнэралы, усё наладжэна так, што і не патькніся пярэчыць. Тут і тыя ёсьць, што муку з за мора прысылаюць—у аднэй кумпаніі з панамі. А дома галодныя дзеці траву ядуць. І стада людзкае падымае ў гару рукі па заданаму знаку, ня ведаючы, што гэтым падняцьцём прадае Бацькаўшчыну, прадае сябе і дзяцей сваіх у няволю. Але найшоўся, кажуць, *адзін чалавек* (!) і на тым «сэйме», які насупроць тлуму адзін стаў і падняў руку проці. Гэта ужо лепей Той адзін, хто пайшоў проці тлуму, гэты тлум павядзе ўсьлед за сабою.

Пачынаем цешыцца малым. Абецанкамі вялікіх людзей цешыцца ня будзем. Бо ведаем, што ашукаемся. Трэба глянуць праўдзе у вочы.

У тым самым часе, як адна рука пісала аб самаадзначаньні земляў Вялікага Князьства Літоўскага, другая гэтыя землі пакрыху клала у сваю кішэню. Грунтуючыся, ведама, на «жаданьнях людначасьці», праз сябе сфабрыкаваных. Праўда у нашых заходніх суседзяў неяк заўсёды так бывала, што правая рука ня ведае аб тым, што робіць левая. Але, здавалася б, чым тут мы, староньнія людзі вінаваты і чаму іменна мы заўсёды на гэтым «непаразуменьні» церпім?

Адрэзалі ад Беларусі (і відаць лічуць, што на заўсёды, бо навет выбары у сойм Варшаўскі правялі)—паветы чыста-беларускія (з 1$^0/_0$ палякаў подлуг польскай статыстыкі *)) як Сакольскі, Берасьцейскі, альбо з аграмаднай пераважаю беларускай людначасьці, як Бельскі і Беластоцкі. Цяпер прыйшла чарга на Горадню. Сфабрыкавалі «сэйм», і Горадня далучана (павет мае 5$^0/_0$ палякоў). З газэтаў відаць, што гэтае-ж самае падгатаўляецца і навакол Вільні. У Парыжы гэтая грубая фальсіфікацыя будзе названа—плебісцытам.

Аднак мы усёж надзеі ня трацім. Мы верым, што наш вялікі народ і жабрацкія шаты надзеўшы ня страціць сваёй людзкай годнасьці. Ды і час не такі. Сілаю рэчаў мусяць лічыцца самыя непераборлівыя у спосабах людзі з тым, што скажуць аб іхных чынах іншыя, што скажа сьвет, а навет—што скажа сусьветная дэмократыя. Скінуўшы путы імпэрыялізму ідзець ця пер яна, пані будучага веку, наперад да свайго пасаду, а гісторыя перад ёю раўнуе дарожкі. Яна то ужо пачуе голас і беларускага народу, бо зрэшта, чым ён горшы ад тэй жмені чужаземных спэкулянтаў, якія хочуць сесьці яму на шыю? А гэтыя паны будуць мець дачыненьне ужо не з маўклівю массаю нявольнікаў, як гэта было даўней! О, не! Барацьба за нашую зямлю будзе цяжкою і для вас, паны анэксіяністы!

Л. Б.

*) Romer—Rocznik statystyczny.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генеральнага Штабу.

**Фронт Галіцыйска - Валынскі.** У Усходняй Галіцы. бойкі ідуць далей. На Валыні непрыяцель два разы атакаў нашае перадмастовае укрепленьне у Рафалаўцы. Атакі адкінуты, вораг пабег уцякаць без парадку.

**Фронт Палескі.** Апроч звычнай дзяяльнасьці артылерыі і ўзьведных патроляў—бяз зьмены.

**Фронт Літоўска - Беларускі** Бяз зьмены.

# Дзьве душы.

*Повесьць.*

I.

Памешчык сярэдняй заможнасьці пан Абдзіраловіч заўдавеў у 1890 годзе дужа трагічнэ.

У адну душную, цёмную летнюю ноч варочаўся ён з жонкаю дамоў з баля, на якім гуляла усё павятовае шляхецтва.

Баляваньне было вялікае. Шампанскае лілося, як рака. Клум, гоман, грыменьне прывезенага з N. аркестра далёка нясьліся з ярка асьветленага панскага палаца па старынному заглохламу парку, насаджанаму рукамі падданых за каралём Панятоўскім, пераляталі заплытае возера з шумячым чаротам і трапетна шэпчучым у-ноччы трасьнікам, каціліся, засмутнела слабнучы, цераз сонны фруктовы сад і канаві на дварох сьпячай вёскі.

Сярод агульнай нясудзержнай весялосьці і скокаў, пад налезаньнем начы і музыкі, маладую, нярвовую паню зьняцейку агарнуў незьясьнімы сум, і яна вельмі напужала мужа, настойліва бажала зараз-а-зараз ехаць дамоў, дзе аўстаўся іх першачок, трох месяцаў Ігналік.

— Але-ж, дуся,—уставаў з-за картэўнага століка, прабаваў разсеяць прадчуцьці аб няшчасьцю агорчаны панмуж,—яшчэ гэтак рана... Усё спакойна... У нас сыйшлася добрая партыя...

Паня раптам уся задрыжэла. Сьлёзы пырснулі з воч і абпяклі яго руку.

— Ігналік мой!.. Ігналік... Барджэй дамоў, да яго...

Дзіўнай трывозе і клопату маладэй жонкі баляваньнікі надта не падзівілі і бяз думак гулялі аж да шэрай гадзіны раньня, калі мужыкі, схапіўшы косы, беглі ў макраватай імгле золку на сенажаць і прыкра чулі на ходу слабнучыя гукі паньскай гульні.

А накановане прадчуцьцё не ашукала яе: сярод чорнай цямноты, у Чортавым Барку, а поўначы на іх бяз меры сьмела напалі імсьлівыя людзі і бяз сьледу уцяклі.

Коні паціху і асьцярожна пераступалі па дарожнаму лесавому карчэўю, вадзілі вушмі і чуючы пырскалі. Фаэтон гоцаў і гутаўся. У няцямлівай дрыготцы прытулілася да мужа паня.

Нешта крэхнула, штосьці зашумела... І блізютынька ў лесі, каля дарогі дзіка гэйкнулі, схапілі коні за паводзьдзе і першы раз дзіўна і голасна вухнулі ў лесавой нямой цішы калом па будцы фаэтона, прабілі яе.

Другі раз меркавалі пану і далі ў вісок яго жонцы.

Коні ірваналіся на-дыбкі і быццам шалёныя паляцелі. Жудасна, як зьвер, равеў здурнелы пан, сьціскаў ліпкімі ад крыві пальцамі халадзеючы бязвольны труп. Хурман зьнямеў ад страху і сударжна упянаўся нагамі, намагаўся, каб не зваліцца з казлоў, не адарваць абкручаных вожкамі рук.

